


У прадшколлі забава. Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 38 (1206) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 21.IX.1980 г.

# Сыдзі з дарогі!

## ІСПАНСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

У Андалузіі ў горных пасяленнях вуліцы такія вузкія і дамы стаяць так блізка адзін ад другога, што жыхары могуць прывітацца за руку, не выходзячы з дому. Яны такія вузкія, што праходжы, сустрэўшы асла з грузам, абавязкова павінен саступіць са сцежкі, а большыя кашы, накладзены на жывёліну, зачапляюць нават за сцены дамоў. Да таго ж горцы — народ гарачы, і цярпець не могуць, калі жывёліна брыдзе нага за нагу. Куды там — ім абавязкова трэба бегчы на ўсю моц, і ад гэтага здараецца нямала няшчасцяў.

Вось чаму стары алькальд, стараста і суддзя аднаго з пасяленняў, выдаў строгі загад, які прымушаў кожнага, хто гоніць жывёлу па вуліцах, яшчэ здалёк крычаць: „Сыдзі з дарогі!“ — і крычаць так голасна, каб нават глухі пачуў.

Ведаў гэта і селянін Санчо. Кожны дзень ён ганяў сваіх двух аслоў на кірмаш у горад і не шкадаваў бізуноў. Яго аслы імчаліся, як бегавыя коні, але затое Санчо ўмеў крычаць галасней за ўсіх.

Аднойчы вечарам Санчо вяртаўся з кірмаша са сваімі асламі і раптам убачыў на дарозе дзвюх жанчын. Сялянкі ў шырокіх спадніцах і святочных карунках, мабыць, сабраліся ў госці, але, выпадкова сустрэўшыся, пачалі гутарыць, а гутарка была гарачай. Сялянкі размахвалі рукамі і стараліся перакрычаць адна другую. Тады Санчо ўдарыў сваіх аслоў і крыкнуў так голасна, як толькі мог:

— Сыдзі-і-і з дар-р-рогі!

Але жанчынам было ўжо не да яго. Спрэчка зайшла так далёка, што яны ўчапіліся адна другой у валасы і не слухалі, што крычаў Санчо.

Пагоншчык зразумеў, што справа кепская: яшчэ хвіліна — і здарыцца бяда. Тады ён закрычаў яшчэ раз і крыкнуў так голасна, што, здаецца, яго пачулі б нават у суседнім горадзе. Але і гэта не памагло. Што мела здарыцца, тое здарылася. Аслы з разбегу наляцелі на сварлівых жанчын, збілі іх з ног і ўтапталі ў дарожны пыл іх карункавыя ўборы. Вядома, жанчыны адразу ж ускочылі. Забыўшыся, што сварыліся, яны накінуліся на ні ў чым не вінаватага Санчо:

— Куды ты гоніш сваіх аслоў? — крычалі яны разам. — Будзеш перад алькальдам расплочвацца за нашы сукенкі і карункі.

Не марнуючы часу, яны пабеглі да дома старога алькальда. Але і Санчо не зяваў.

„Калі яны прыбягуць раней за мяне, дык я акажуся вінаватым. Калі ж я паспею першым, дык змагу яшчэ апраўдацца“, — так меркаваў Санчо. Ён кінуў аслоў у першым лепшым дворыку і проста праз платы і чужыя сады паімчаўся да алькальда. Ён паспеў прыбегчы раней за жанчын і чыстасардэчна расказаў суддзі аб усім, як было.

Алькальд выслухаў селяніна і, падумаўшы, сказаў:

— Памагчы табе не лёгка, таму

што ніхто не можа даказаць, што ты сапраўды папярэджваў гэтых жанчын крыкам, і я магу параіць табе толькі адно: што б ні гаварылі табе, у чым бы цябе не абвінавачвалі, — маўчы. Нават калі я загадаю адаслаць цябе ў турму — не кажы ані слова. Я хачу, каб гэтыя жанчыны прынялі цябе за глуханямога. У гэтым адзіны твой ратунак.

Так сказаў алькальд. Ён паклікаў двух стражнікаў і загадаў адвесці селяніна ў падвал, дзе чакалі суда падсудныя.

Ён зрабіў гэта якраз у час, бо тут жа ў дом уварваліся разгневаныя жанчыны. Яны закрычалі адна перад другой, што два аслы збілі іх з ног, парвалі сукенкі і стапталі карункі. А трэці асёл нават не прабаваў папярэдзіць іх крыкам: ён парушыў загад алькальда і павінен купіць ім новыя сукенкі.

Алькальд ударыў у далоні, і стражнікі прывялі сумнага Санчо.

— Селянін Санчо, ці ж ты не ведаеш майго загаду? Чаму ты не крычаў „Сыдзі з дарогі!“, калі гнаў сваіх аслоў праз пасяленне? — сурова спытаў алькальд.

Але Санчо не вымавіў у адказ ані слова — ён маўчаў.



Тады алькальд раззлаваўся. Ён закрычаў:

— Адказвай!

Але селянін маўчаў.

Алькальд прыгразіў:

— Калі ты будзеш маўчаць, я пашлю цябе ў турму!

Але і на гэтыя страшныя словы селянін нічога не адказаў. Тады алькальд узяў ліст паперы, абмакнуў пяро ў чарніліцу, быццам збіраючыся пісаць прысуд, але, падумаўшы, адклаў паперу набок. Паціснуўшы плячыма, ён сказаў жанчынам:

— Паважаныя жанчыны, мне здаецца, я не змагу судзіць гэтага чалавека. Вы самі бачыце — ён глуханямы і за ўчынкі свае не адказвае.

Такое рашэнне вельмі не спадабалася сялянкам. Яны зразумелі, што не атрымаюць ад „глуханямога“ ні граша за свае парваныя сукенкі і карункі, і закрычалі разам:

— Гэта ён глуханямы? Ды ён жа проста смяецца з вас, ваша міласць! Нябось у яго хапіла горла, каб крычаць на ўсю вуліцу: „Сыдзі з дарогі! Сыдзі з дарогі!“ Ён крычаў так голасна, што дай божа кожнаму!

Тады алькальд засмяяўся і сказаў:

— Ідзіце дадому, прыгажуні! Вы самі зразумелі, што вы мне сказалі? Вы самі пасведчылі, што Санчо выканаў мой загад і папярэджваў вас крыкам, ды такім, што дай божа кожнаму! Давядзецца вам самім напраўляць свае сукенкі.

Прысаромленыя жанчыны пайшлі дадому, а алькальд адпусціў селяніна.

**Г. Снегіроў**

# МІШКА

На адным караблі жыў прыручаны мядзведзь Мішка.

Неяк раз карабель прыйшоў з доўгага плавання ва Уладзівасток. Усе матросы пачалі сыходзіць на бераг, а Мішка з імі. Хацелі яго не пусціць, зачынілі ў каюце, дык ён пачаў страшна раўсці, так, што на беразе чуваць было.

Выпусцілі Мішку і далі яму жалезную бочку катаць па палубе. А ён яе выкінуў у ваду: не хоча бавіцца, на бераг хоча.

Далі яму лімон. Мішка ўкусіў яго і страшную міну скрывіў; паглядзеў на ўсіх здзіўлена і раўнуў: падманулі!

На бераг Мішку капітан не хацеў пускаць, таму што быў такі выпадак.

Гулялі на беразе ў футбол з матросамі з іншага карабля. Мішка спачатку стаяў спакойна, глядзеў, толькі лапу грыз ад нецярпення, а потым не вытрымаў, як зараве, як кінецца на поле! Усіх ігракоў паразганяў і давай сам мяч ганяць. Лапай як зачэпіць, як зачэпіць! А потым як зачэпіць, мяч толькі — пук! І трэснуў. Як жа ж яго пасля гэтага пускаць на бераг?

І не пусціць нельга, такая грамадзіна; пакуль маленькі быў — шарык, а вырас — вялізны шар. Каталіся на ім верхам, ён нават не прысядае. Сілішча такая, што пачнуць матросы канат цягнуць — усе, колькі іх ёсць, а Мішка з другога канца пацягне, — матросы на палубу пападаюць.

Вырашылі пусціць Мішку на бераг, але з ашыйнікам. Боцман Кліменка, самы моцны на караблі, накруціў раменьчык на руку, і пайшоў Мішка з матросамі ў музей прыроды.

Прыйшлі ў музей, купілі білеты, а Мішку прывязалі ля ўваходу ў садочак, за чугунную армату, ён яе з месца не зрушыць.

Паўзалы ў музеі агледзелі, аж прыбягае дырэктар:

— Забярыце мядзведзя! Ён нікога не пускае!

Пабег Кліменка на вуліцу, глядзіць — стаіць Мішка ў дзвярах, на шыі абрывак раменьчыка боўтаецца, і нікога ў музей не пускае. Людзей цэлы натоўп сабраўся.

Гэта Мішка на караблі прызвычаіўся хабар браць. Як матросы пойдуць на бераг, ён з вечара ля трапа чакае. Матросы ведалі: ідзеш з берагу, абавязкова трэба Мішку цукеркі даць, тады прапусціць на карабель. Без цукерак лепш не паказвайся — прыцісне, не пусціць.

Кліменка раззлаваўся, закрычаў на Мішку:

— Як табе не сорам, абжора!

Мішка спалохаўся, нават вушы прыціснуў і вочы зажмурыў. Ён аднаго Кліменкі баяўся і слухаўся.

Кліменка ўзяў яго за ашыйнік і прывёў у музей.

Мішка адразу прыціх, ад матросаў нікуды не адыходзіць, аглядае партрэты на сценах, фатаграфіі, чучалы звяроў за шклом.

Ад выпханага мядзведзя яго ледзь адцягнулі. Доўга стаяў, раздзьмухваў ноздры. Потым адвярнуўся.

Каля ўсіх выпханых звяроў

прайшоў, нават на тыгра не звярнуў увагі, чамусьці спадабалася яму сойка, вачэй не мог адарваць і ўсё аблізваўся.

Нарэшце прыйшлі ў залу, дзе зброя развешана. Раптам Кліменка крычыць:

— Мішка ўцёк!

Агледзеліся ўсе — няма Мішкі!

Пабеглі на вуліцу — нідзе няма Мішкі! Пайшлі па падворках шукаць — можа дзе за сабакамі пагнаўся?

І раптам бачаць: бяжыць па вуліцы дырэктар музея, акуляры ў руцэ трымае; убачыў матросаў, спыніўся, гальштук паправіў і як закрычыць:

— Зараз жа забірайце свайго мядзведзя!

Аказваецца, Мішка ў самай далёкай зале, дзе розныя жучкі і казяўкі, лёг у кутку і заснуў. Абудзілі яго і на карабель павялі. Кліменка яму кажа:

— Эх ты, табе б толькі брызент рваць на шлюпках, а не ў музей хадзіць!

Да вечара прапаў Мішка. Толькі калі на вячэру далі сігнал, вылез ён з машыноўні. Выгляд Мішка меў вінаваты, ад сораму схаваўся.

# Дзікі звер

У Веры было вавёрчаня. Яго звалі Рыжык. Рыжык бегаў па пакоі, улазіў на абажур, абнюхваў талеркі на стале, караскаўся па спіне, садзіўся на плячо і кіпцікамі раскрываў у Веры кулак — шукаў арэхаў.

Рыжык быў ручны і паслухмяны. Але аднойчы, на Новы год Вера павесіла на ёлку цацкі, і арэхі, і цукеркі і толькі выйшла з пакоя, хацела прынесці свечкі Рыжык скочыў на ёлку, схапіў адзін арэх, схаваў яго ў галош. Другі арэх паклаў пад падушку. Трэці арэх адразу ж разгрыз...

Вера ўвайшла ў пакой, а на ёлцы ніводнага арэха няма, адны паперкі срэбныя валяюцца на падлозе.

Вера закрычала на Рыжыка:

— Ты што нарабіў, ты ж не дзікі звер, а хатні, прыручаны!

Рыжык не бегаў больш па стале, не катаўся на дзвярах, не раскрываў у Веры кулак. Ён з раніцы да вечара запасаўся. Убачыць кавалачак хлеба — схопіць, убачыць зярнятка сланечніка — наб'е поўныя шчокі. Усё хаваў.

Рыжык і гасцям накладаў у кішэні сланечніка на запас.

Ніхто не ведаў, навошта Рыжык робіць запасы.

А потым прыехаў татаў знаёмы з сібірскай тайгі і расказаў, што ў тайзе не ўрадзілі кедравыя арэшкі, і птушкі паляцелі за горныя хрыбты, і вавёркі сабраліся ў вялізныя чароды і пайшлі за птушкамі, і нават галодныя мядзведзі не залеглі на зіму ў бярлогі.

Вера паглядзела на Рыжыка і сказала:

— Ты не прыручаны звер, а дзікі!

Толькі невядома, як Рыжык даведаўся, што ў тайзе голад.




## СТАРАЖЫТНЫЯ ВЫНАХОДНІЦТВЫ

**Егіпцяне (2).**

Егіпцяне ўмелі даволі дакладна мераць і аблічваць не толькі даўжыню і плошчу, але і час. Як і іншым народам, у гэтым ім памагалі назіранні за Сонцам, Месяцам і зоркамі. Егіпцяне заўважылі, што разліў Ніла пачынаўся адразу пасля таго, як над гарызонтам упершыню пакажацца адна з самых яркіх на небе зорак — Сірыус. Уяўляеце, як важна было для земляробаў ведаць наперад праз колькі дзён іх поле заліе вада?

Егіпцяне прыдумалі адзін з самых старых на зямлі календароў. Яны ўжо разумелі, што год нельга падзяліць на роўную цэлую лічбу месяцаў. У егіпецкім годзе было 365 1/4 сутак. Гэта вельмі блізка да таго, што ёсць на самай справе.

Егіпецкі каляндар аказаўся вельмі ўданы. Потым ім пачалі карыстацца і іншыя народы. Рымскі імператар Юлій Цэзар яшчэ ў 46 годзе на пачатку нашага летавылічэння ўвёў егіпецкі каляндар у Старажытным Рыме. З таго часу гэты каляндар пачалі называць юльянскім. Па юльянскім календары, гэта значыць, па „старым стылі“ жылі і ў нашай краіне аж да 1917 года.

Каб мераць адрэзкі часу, егіпцяне вынайшлі гадзіннікі. Першы гадзіннік быў сонечны, ён паказваў час толькі ўдзень.

Пазней егіпцяне вынайшлі вадзяны гадзіннік, які мог паказваць час і ўдзень і ўначы. Ён так і называўся — начны гадзіннік. Была гэта звычайная пасудзіна — збанок, з якога праз дзірачку выцякала вада роўна за гадзіну. Потым трэба было збанок зноў напаўняць вадой.

Гэта быў, вядома, не вельмі выгодны, але затое даволі дакладны спосаб вызначэння часу.

**Вавілон.**

На ўсход ад Аравійскага паўвострава з поўначы на поўдзень плывуць дзве рэчкі — Еўфрат і Тыгр. Паміж імі вузкая палоска зямлі, якая ў старажытныя часы называлася Месапатаміяй (Міжрэчча). Найбольшай дзяржавай Месапатаміі быў Вавілон.

Вавіланяне, як і жыхары Егіпта, былі земляробамі. Іх землі таксама заліваліся водамі вялікіх рэк. Ім даводзілася будаваць дамбы і насыпы. А для будовы іх таксама патрэбны былі веды. Таму і вавіланяне былі добрымі матэматыкамі. Вавілонскія вучоныя ведалі ўжо не толькі арыфметыку і геаметрыю, але і алгебру. Некаторыя сучасныя вучоныя нават мяркуюць, што слова „алгебра“ з'яўляецца вавілонскім.

У Вавілоне каля шасці тысяч гадоў назад было вынайдзена кола. Гэта было адно з найбольшых адкрыццяў на свеце.

У Вавілоне дакладна назіралі за небам. Ужо ў тыя часы тут ведалі планеты Меркурый, Венеру, Марс, Юпітэр, Сатурн і прабавалі аблічваць наперад іх шлях па небе.

**Паводле І. Дэпмана**

Мікола Алтухоў

# ГРЫБНАЯ ранiца

*На зямлі духмянай*
*Быццам васілёк,*
*Сіні-сіні ранак,*
*Залаты дзянёк.*

*На зары пунсовай,*
*Абляпіўшы вяз,*
*Клічуць у дубровы*
*Берасцянкі нас.*

*А ў лясах бясконцых,*
*Дзе шумяць дубы,*
*Круглыя, як сонца,*
*Свецяцца грыбы.*

*Пад птушыны пошчак*
*У лясной глушы*
*Я збіраю ў кошык*
*Іх капелюшы.*

*Радасна сустрэцца —*
*Колькі іх відно! —*
*І святлей на сэрцы,*
*І цяплей ажно.*

*Я праходжу гаем,*
*Весела іду,*
*Сонца я збіраю,*
*Пра запас кладу.*



# Пазнаёмімся

* ✲ *

БССР, 220009, г. Мінск-9, вул. Чабатарова, 23, кв. 5. Света Каробка, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220093, г. Мінск-93, вул. Д. Сердзіча, 60, кв. 18. Наташа Стэльмашова, 11 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220093, г. Мінск-93, вул. Д. Сердзіча, 60, кв. 1. Іна Ляпіна, 11 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 11, кв. 20. Ларыса Майсейчык, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220116, г. Мінск-116, вул. „Праўды“, 14, кв. 594. Наташа Сіліч, 14 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 13. Лена Шушкевіч, 12 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 6, кв. 12. Наташа Белазёрава, 10 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 77/9, кв. 4. Оля Бусло, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 77/9, кв. 32. Наташа Сырокваш, 9 гадоў.

* ✲ *

БССР, 220050, г. Мінск-50, вул. Мяснікова, 11-В, кв. 1. Аксана Шавейка, 13 гадоў.

* ✲ *

БССР, 231800, г. Слонім, Гродзенскай вобласці, зав. Аптэчны, 3, кв. 13. Святлана Шабан, 14 гадоў.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Брр! Якая халодная вада!

— Так. Каб мне мама не забараніла, я ніколі б не палез купацца!

* ✲ *

— Мы свой агарод угнойваем хімічна — бярэм ваду з рэчкі!

* ✲ *

Малы рыбак прыйшоў да фатографа:

— Мяне, калі ласка, пакіньце так, як ёсць, а рыбу павялічце.

* ✲ *

Янка хоча купіць у заалагічнай краме чарапаху.

— Такія чарапахі будуць дзвесце гадоў жыць, — кажа прадавец.

— А калі не будуць?

— Калі трошкі не дажыве, дык ты прынясі яе мне, а я табе другую дам.

* ✲ *

— Ці ты, Барыс, ведаеш, дзе знаходзіцца Занзібар? — пытаецца настаўнік.

— Не ведаю, — адказвае Барыс, — я па барах не хаджу.

* ✲ *

Тры хлопцы перахвальваюцца:

— А мой тата падыме найвялікшы камень!

— А мой тата падыме тры найвялікшыя камяні!

— А мой тата не будзе нічога паднімаць! У яго ёсць намеснік!

* ✲ *

— Янка, як ты можаш спяваць? Ты ж толькі што разбіў тры талеркі!

— Мамачка! Я ж спяваю жалобныя песні!



## АДГАДАНКА

Калі хочаш даведацца, што намалявана на гэтай карцінцы, замалюй алоўкамі палі, азначаныя кропкай.

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**